© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ПАГОНЯ

Чацвер
29 ліпеня 1999 г.
№ 48 (425)
Кошт 25.000 руб.

## Лукашэнка едзе ў госці!

**На гэтым тыдні, як паведамілі афіцыйныя крыніцы, Аляксандр Лукашэнка працягне знаёміцца са становішчам справаў у аграпрамысловым комплексе на месцах.**

З гэтай мэтай А.Лукашэнка мае намер ажыццявіць рабочую паездку ў Гродзенскую вобласць, дзе асабіста пракантралюе ход уборкі ўраджаю.

**Максім Цітоў**

## У Менск на самалёце

**31 ліпеня Гродзенскі аэрапорт адкрывае новыя авіярэйсы. Палёты будуць ажыццяўляцца самалётамі ЯК-40 у Брэст, Менск, Магілёў і Сімферопаль.**

У сталіцу Беларусі самалёты будуць лятаць па серадах і нядзелях. Працяглаcць палёту — 30 хвілін. Кошт білета ў абодва бакі складзе ў эквіваленце 10 даляраў ЗША, альбо 3,9 мільёна рублёў; у адзін бок — 6 даляраў ЗША, ці 2,1 мільёна рублёў. У Магілёў самалёты будуць лятаць па аўторках, у Брэст — па суботах.

Па гэтых жа двух днях самалёты пасля пасадкі ў абласных цэнтрах будуць далей ажыццяўляць палёты ў Сімферопаль.

**Ася Куніцкая**

## Бяда напаткала на 85-м годзе...

**Ваўкавыскі райвыканкам разгледзеў пытанне «Аб рабоце адкрытага акцыянернага таварыства «Краснасельскцэмент» па стабілізацыі эканамічнага і фінансавага становішча ААТ». Падставай для турботаў стала стратная работа прадпрыемства па ўсіх відах прадукцыі на працягу апошняга года. За студзень-травень бягучага адпаведна на 62,3 працэнта і 83 працэнта скараціўся экспарт шыфера і асбестацэментных трубаў.**

Работа дырэкцыі прызнана недастатковай. Вырашана прасіць аблвыканкам пасадзейнічаць у атрыманні крэдытаў ад зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў краіны. Для стабілізацыі становішча патрабуюцца таксама замежныя інвестыцыі ў памеры 20 мільёнаў даляраў.

Цэментны завод у пасёлку Краснасельскі распачаў працоўную біяграфію ў 1914 годзе. Яго якасны цэмент выкарыстоўваўся пры пабудове Брэсцкай крэпасці, гарадзенскіх фартоў, умацавання раёна на заходніх межах краіны ў міжваенны час. Астанкінская тэлевежа ў Маскве і Асуанская плаціна ў Егіпце таксама трывала стаяць на цэменце, вытворчасці аднаго са старэйшых прадпрыемстваў Беларусі.

**Уладзімір Кавалёў**

## Сапега прэзентуе рэформу

**У Гродне прайшоў семінар «Мясцовыя органы ўлады і грамадскія арганізацыі: супрацоўніцтва і ўдзел у грамадскім жыцці на лакальным узроўні». Адбыўся семінар у памяшканні аб'яднання «Ратуша» і быў зарганізаваны Гарадзенскай філіяй Фонду імя Льва Сапегі і Фондам імя Эберта.**

Адной з галоўных праблемаў, што разглядалася на семінары, была праблема рэфармавання сістэмы мясцовых органаў улады ў Беларусі. Асноўнай ідэяй рэформы, паводле словаў экспертаў Фонду імя Льва Сапегі, ёсць пераход нашых Саветаў на муніцыпальныя прынцыпы функцыянавання. Для азнаямлення і параўнання ўдзельнікам семінару былі прэзентаваны сістэмы мясцовага самакіравання Нямеччыны і Польшчы.

**Павал Мажэйка**

НАДВОР'Е

**Тэмпература паветра па вобласці:**

**30-31 ліпеня** - пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночны 4-9 м/с. Тэмпература уначы +9...+14, удзень +20...+25.

# Было б за што - наогул бы забілі?



Больш двух тысяч гарадзенцаў развіталіся з прэзідэнтам 21 ліпеня

**Як паведамляла ПАГОНЯ ў мінулым нумары, гарадзенская міліцыя затрымала шэсць асобаў за ўдзел у акцыі пад назвай «Развітанне з прэзідэнтам». Два чалавекі з іх - Ян Лялевіч і Генадзь Скарадумаў - былі адпушчаныя нават без складання пратаколу. Гэта сведчыць пра тое, што затрымліваючы людзей, міліцыянты дзейнічалі па прынцыпу: хто патрапіць пад руку. Ян Лялевіч, які асабліва моцна «трапіў пад руку», зняўшы пабоі, вымушаны быў з гэтай нагоды звярнуцца ў пракуратуру.**

Чатырох затрыманых - рэдактара ПАГОНІ Міколу Маркевіча, старшыню Гарадзенскай Рады БНФ Сяргея Мальчыка, актывіста БНФ Міколу Ворана і намесніка кіраўніка каардынацыйнага камітэта «Гарадзенская ініцыятыва» Алеся Астроўскага - на наступны дзень суддзя Ленінскага раёна горада Гродна спадар Казяк аштрафаваў на буйныя сумы - ад 50 да 200 мільёнаў рублёў.

Як мы і абяцалі, паведамляем падрабязнасці гэтага дзіўнага на ўсіх адносінах суда.

### Як судзілі

Спадар Казяк паведаміў падсудным, што ён вельмі загружаны работай. Магчыма, гэта, з ягонага пункту гледжання, стала абгрунтаваннем дзеля таго, каб адвесці ўсе хадайніцтвы, якія былі пададзеныя людзьмі, чый лёс вырашаў гэты малады чалавек.

Скажам, законнае патрабаванне ўдзельнікаў працэсу рэалізаваць сваё права на абарону суддзя праігнараваў. І гэта, нягледзячы на тое, што ў падсудных быў заключаны пісьмовы дагавор з адвакатам Уладзімірам Кісялевічам аб прававой дапамозе. Каб выканаць хадайніцтва, спадару Казяку дастаткова было перанесці працэс на другі дзень. Аднак гэтага не здарылася. Чаму? Навошта было ствараць брыдкі прэцэдэнт, пры якім Канстытуцыю - Асноўны Закон -дзе замацавана права кожнага грамадзяніна на абарону, парушае сам слуга Закону - суддзя?!

Далей - болей. «Ничтоже сумняшеся» суддзя Казяк адхіляе хадайніцтвы аб удзеле ў працэсе перакладчыка з «великого и могучего» на беларускую мову. На мову, якой у адрозненне ад рускай, у поўнай меры валодалі падсудныя. Натуральным здзекам з боку суддзі выглядала падобнае рашэнне на фоне таго, што ў зале судовага пасяджэння знаходзіўся перакладчык, якога перад гэтым выклікала адміністрацыя Ленінскага райсуда.

Што называецца «опупеем апофеоза» сталася тое, што суддзя адхіліў хадайніцтва рэдактара ПАГОНІ аб адхіленні самога суддзі ад справы. Што называецца, свая рука - уладыка! У гэтых умовах Мікола Маркевіч увогуле адмовіўся адказваць на пытанні суддзі...

Без сумневу, пры такіх абставінах суддзя не мог усебакова і поўна, як гэтага патрабуе закон, даследаваць даручаную яму справу. Калі б ён хацеў гэтага, дык ён паспрабаваў бы высветліць: чаму журналіст, рэдактар ПАГОНІ, якога ён і міліцыя патрактавалі як аднаго з арганізатараў апазіцыйнай акцыі, знаходзіўся там. Якім чынам «арганізатор» несанкцыянаванага шэсця ўсю дарогу ад плошчы Леніна да плошчы Савецкай прайшоў у сярэдзіне калоны поруч з кіраўніком аддзела па ахове канстытуцыйнага ладу УКГБ? Ці так паводзяць сябе арганізатары?

Гэта не апошняе пытанне, якое не здолеў і не захацеў высветліць для сябе спадар суддзя. Ці такія адносіны да нормаў права сталі ўжо сістэмай для суддзяў?

### Навошта была гэтая акцыя

Яшчэ ў міліцэйскім пастарунку адзін з ахоўнікаў парадку, які прызвычаіўся мець справу з бандытамі, алкаголікамі і бамжамі, здзіўляючыся з прафесарскіх рэгаліяў затрыманых ды іх інтэлегентнага выгляду, пацікавіўся:

- Навошта было хадзіць па вуліцах, махаць сцягамі? Сядзелі б ціха дома і ніхто вас не затрымліваў бы...

І сапраўды, чаму больш за дзве тысячы гарадзенцаў вырашылі ўдзельнічаць у акцыі, якая, і гэта было вядома загадзя, не спадабаецца ўладам? Найперш таму, што гэтыя людзі хацелі і хочуць лепшага жыцця для сябе і для сваіх дзяцей. Яны выдатна ўсведамляюць, што пры сённяшнім прэзідэнце лепшага жыцця не відаць як сваёй патыліцы. Напярэдадні прыходу Лукашэнкі да ўлады кожны беларус меў месячны заробак не менш як 100 даляраў. «Дзякуючы намаганням» Лукашэнкі, сёння не кожны мае нават 30 даляраў. Дык чаго ж чакаць яшчэ два гады? Каб «народны прэзідэнт» зусім з торбай па свету пусціў?

Многія людзі ўжо зразумелі, што ўсе гэтыя інтэрвьюці ды саюзы, якія вось ужо пяць гадоў абяцае Лукашэнка, гэта абяцанкі-цацанкі, ад якіх нават дзецям няма радасці. Усё, што не робіць прэзідэнт -усё да горшага! Прыпыніць дзейнасць такога прэзідэнта - маральны і законны абавязак кожнага грамадзяніна.

### За што судзілі

Ва ўсім цывілізаваным свеце, дзе ў аснову законаў пакладзены правы і свабоды грамадзян, такога паняцця, як несанкцыянаваны мітынг альбо шэсце не існуе. Кожны грамадзянін мае права на свабоду слова і сходаў. Для таго, каб скарыстацца з гэтага права, дастаткова даслаць у адпаведны орган улады ліст з паведамленнем. Маўляў, у такі дзень і такі час буду пікетаваць. Указваецца месца і час правядзення акцыі. Арганізатар таксама можа папрасіць паліцыю забяспечыць парадак. І ўсё! Гэта называецца паведамляльны прынцып правядзення масавых акцыяў. А ў нас прынцып -дазвальны. А ў нас - указ прэзідэнта! Прычым, змест гэтага дакумента супярэчыць нават прэзідэнцкай канстытуцыі!

Вось і зразумей, за што судзілі журналіста, які знаходзіўся пры выкананні сваіх службовых і прафесійных абавязкаў і яшчэ трох грамадзянаў, якіх міліцыянты і суддзя прызначылі «арганізатарамі».

**Мікола Туравец**

**P.S.:** ***Калі гэты нумар быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што «арганізатары» акцыі «Развітанне з прэзідэнтам» напісалі скаргі на суддзю Казяка. Пра тое, якой будзе рэакцыя на гэтыя скаргі кіраўніка Гарадзенскага абласнога суда, мы абавязкова паведамім сваім чытачам.***

***Трэба адзначыць, што людзі, чые правы былі растаптаныя ў Ленінскім судзе, настроены вельмі рашуча. Паводле словаў кіраўніка Гарадзенскай Рады БНФ Сяргея Мальчыка, «мы пройдзем усе судовыя, пракурорскія ды праваабарончыя інстанцыі, уключаючы камісію па правах чалавека АБСЕ ды іншыя міжнародныя арганізацыі».***

## І гасцінна сустрэне Італія

**Сёння ў Італію адпраўціца адпачываць група з 48 дзяцей, якія жывуць у Гарадзенскай вобласці.**

Сярод іх — выхаванцы дзіцячых дамоў з Ваўкавыска, Ліды, Смаргоні і вёскі Панемунь, а таксама дзеці, якія знаходзяцца пад апекай у сем'ях. Іх будуць прымаць сем'і жыхароў горада Арадзэо. 70 працэнтаў выдаткаў узяла на сябе італьянская дабрачынная канфедэрацыя «Мізэрыкордыя», астатнія — Гарадзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонда міласэрнасці. Беларускія дзеці будуць адпачываць у Арадзэо да 29 жніўня.

Гэта будзе ўжо чацвёртая паездка ў Італію. Зараз на востраве Сардзінія адпачываюць 24 дзіцяці з Гарадзенскай вобласці.

**Ася Куніцкая**

## Хвароба немытых рук наступае

**З сярэдзіны ліпеня ў Гродне пачаўся рост вострых кішэчных захворванняў. Паводле дадзеных Гарадзенскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (ГГЦГіЭ), толькі за першыя дзесяць дзён, з 15 па 25 ліпеня захварэла 136 чалавек. З іх больш за палову шпіталізаваныя. Найбольш часта сустракаецца крываўка, альбо дызентэрыя. Калі за першыя паўгады было зафіксавана 28 хворых на крываўку, дык толькі за перыяд з 16 па 25 ліпеня ўжо 22.**

У Гродне у сувязі з ростам захворванняў, уведзены дадатковыя мерапрыемствы па прафілактыцы вострых кішэчных захворванняў. Да прыкладу, падрыхтавана адпаведная лекцыя, якая штогадзінна будзе чытацца па радыё на Скідзельскім рынку. На прадпрыемствах гандлю і рынках узмацніўся кантроль за ўмовамі захоўвання і тэрмінамі рэалізацыі прадуктаў, якія хутка псуюцца. Часцей сталі праводзіцца рэйдавыя праверкі аб'ектаў водазабеспячэння, месцаў масавага адпачынку насельніцтва, летнікаў. За перыяд з 1 па 18 ліпеня было складзена 105 пратаколаў па фактах парушэнняў умоваў захоўвання і рэалізацыі прадукцыі.




Рэзка пагоршыліся бактэрыялагічныя паказчыкі вады ў Нёмане. У сувязі з гэтым, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач горада Мікалай Кендыш вынес пастанову аб забароне купацца ў рацэ Нёман.

Прагнозы несуцяшальныя. Лета, спякота, пагаршэнне якасці вады, масавы завоз на рынкі гораду садавіны і гародніны з Поўдня. Усё гэта толькі ўскладняе сітуацыю ў Гродне з дызентэрыяй ды іншымі вострымі кішэчнымі захворваннямі.

Спецыялісты з Гарадзенскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі выказваюць клопат пра здароўе гарадзенцаў і настойліва рэкамендуюць:

- старанна сачыце за чысцінёй рук, мыйце іх з мылам перад гатаваннем і ўжываннем ежы;
- садавіну і гародніну ўжывайце толькі пасля таго, як добра вымыеце ў праточнай вадзе і абдасцё кіпенем;
- ахоўвайце прадукты харчавання ад мух, не пакідайце ежу адкрытай;
- не ўжывайце ваду з адкрытых вадаёмаў і непрыстасаваных студняў, піце толькі гатаваную ваду;
- вяршкі, тварог, сыр, хлеб ды іншыя прадукты, што ўжываеце без папярэдняй цеплавой апрацоўкі, ахоўвайце ад забруджвання.

**Павал Мажэйка**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# Палітыка, мараль і сучасная сітуацыя

## (Матэрыялы да VI З'езда БНФ)

**Цяперашні З'езд Беларускага Народнага Фронту мае перад сабой праблемы, напэўна, самыя складаныя з усяго немалога перыяду свайго існавання. У іх у завілым скрутку змяшаліся пытанні як тэарэтычнага плану, так і зусім процілеглага, ледзьве не драбнасткова-асабістаснага характару. І па ўсіх тых праблемах і пытаннях БНФу і яго кіраўніцтву даводзіцца вытрымліваць сёння асабліва злосныя крытычныя атакі. Для пачатку - крыху тэорыі.**

Яшчэ з гегелеўскіх часоў вядома, што палітыка, як і дзяржава, ёсць рэальнасць маральнай ідэі. Сёння, аднак, мы жывем у эпоху ўсё яшчэ не пераадоленых марксісцка-ленінскіх стэрэатыпаў. Самым жывучым з іх аказаўся сфармуляваны Леніным тэзіс, адпаведна якому палітыка - гэта канцэнтраваная эканоміка (маралі, як вядома, ён пакідаў усяго толькі службовую ролю ў справе захопу ўлады, вызначаючы яе як дапаможны сродак для перамогі камунізму: маральным для яго быў і архіпелаг ГУЛАГ!). Зрэшты, тэзіс аб прыярытэце эканомікі незалежна ад Маркса і Леніна даволі шырока, як ні дзіўна, бытуе і сярод некаторых спецыялістаў сучаснага Захаду. Але і заходняя філасофія, і заходняя навука ў лепшых сваіх узорах, пачынаючы з даўняга Гегеля і заканчваючы, напрыклад, сучаснымі Тойнбі, Сарокіным, Новакам, Ролзам ды іншымі, трактавала і трактуе праблему ўзаемаадносін паміж мараллю і палітыкай як частку агульнай праблемы ідэальнага і матэрыяльнага ды іх актыўнага ўзаемадзеяння паміж сабой. З гэтых пазіцый і гістарычнае развіццё грамадства ёсць своеасаблівае ўзаемадзеянне ідэальнага і матэрыяльнага. Сама гісторыя чалавецтва выступае перад намі ў выніку як заканамерная чарада пад'ёму, росквіту і ўпадку асобных соцыумаў ды іх культур. І на фазе менавіта пад'ёму вырашальную ролю заўсёды адыгрывала і адыгрывае ідэя, а не матэрыяльны інтарэс. Гэта даўно ўжо даказана і філасофскай тэорыяй і канкрэтна-навуковай эмпірыкай. Нават той жа Маркс насуперак свайму матэрыялізму прызнаваў некалі, што ідэя, авалодаўшы масамі, становіцца матэрыяльнай сілай і, значыць, усё пачынаецца з ідэі. А мараль, як вядома, мае чыста ідэальны характар.

Беларусь сёння якраз і знаходзіцца на фазе пад'ёму-адраджэння, ці, прынамсі, напярэдадні яго. А таму і ў нас тут вырашальную ролю адыгрывае ідэя. І, калі ўжо размова пра грамадства, пераважна ідэя маральная. Тым болей мараль павінна ляжаць у аснове палітыкі Беларускага Народнага Фронту, які ў сённяшніх гістарычных абставінах будуе сваю праграму на ідэях хрысціянскай дэмакратыі і асноўнай сваёй задачай ставіць не толькі эканамічнае, але і духоўнае адраджэнне, г.зн., пад'ём беларускага народу да ўзроўню самастойнай нацыі з яе развітой самасвядомасцю, духоўнай і матэрыяльнай культурай і ўласнай суверэннай дзяржаваю.

Таму папрокі на адрас Фронта наконт быццам бы ідэалістычнасці і рамантызму яго палітычнай лініі не маюць сэнсу. Бо гэта заканамерныя асаблівасці часу і гістарычнай сітуацыі. Тым болей не маюць рацыі падобныя папрокі на адрас асабіста Зянона Пазьняка як натхніцеля і кіраўніка такой палітыкі. Таму што ён сваёй жорсткай устаноўкай на прыярытэт маралі ў палітычнай дзейнасці якраз і ўвасабляе ў сабе, думаецца, азначаныя рысы і асаблівасці, абумоўленыя як вечнымі маральнымі прынцыпамі, так і грамадскай сітуацыяй. Гэта тое, што нам сёння якраз патрэбна і што надзвычай выгадна выступае на фоне цяперашняга амаралізму ды індывідуалісцкай амбіцыёзнасці некаторых нашых нават вельмі апазіцыйна настроеных сёння палітыкаў («палітыкаў» лукашэнкаўскага тыпу мы па зразумелых прычынах пакідаем тут зусім у баку).

У якасці такой усеагульнай ідэі, якая ляжыць у аснове палітыкі БНФ ва ўсіх яе канкрэтных кірунках і адгалінаваннях, выступае менавіта нацыянальная ідэя як наш агульны сацыяльны ідэал. Сёння эмацыянальна-адмоўная рэакцыя супраць паняцця ідэала і спробы паставіць на яго месца толькі матэрыяльны інтарэс з'яўляецца ў лепшым выпадку праявай памянёнага марксісцкага стэрэатыпу аб прыярытэце эканомікі ў сацыяльным жыцці. А ў горшым - усяго толькі слепа-неразумнай эмацыянальнай рэакцыяй на недалёкі, вельмі нядобры час, звязаны з крайне фальшывымі ідэаламі ў форме куміраў ды ідалаў камуністычнага тыпу. Нярэдкія спасылкі на сучасную заходне-еўрапейскую ментальнасць з яе ўстаноўкай на пераважна асабістую індывідуалістычную выгаду і інтарэс таксама ёсць вынік недастатковага ведання гісторыі еўрапейскай цывілізацыі. Паводле Макса Вэбэра, напрыклад, базай і крыніцай сучаснага багацця матэрыяльнага быту Еўропы і Амерыкі з'явілася не што іншае, як пратэстанцкая этыка з яе ідэаламі беражлівасці, працы і прадпрымальніцтва як Божага Прызвання, а не ўсяго толькі жывёльна-прагная пагоня за асабістай нажывай. Пра тое піша, шырока ўжываючы, дарэчы, слова «ідэал», і сённяшні амерыканскі эканаміст М.Новак у кнізе «Дух дэмакратычнага капіталізму», выдадзенай нядаўна менавіта ў нас у Менску. Этыка і эканоміка звязаны паміж сабою цесным і неразрыўным адзінствам, як духоўны і матэрыяльны пласты культуры ў цэлым і як душа і цела ў паасобным чалавеку. Да чаго можа прывесці эканоміка без этыкі паказвае прыклад цяперашняй Расіі з яе алігархічна-мафіёзнай, напалову злачыннай гаспадарчай сістэмай і навалай жахлівай бездухоўнасці ў яе некалі вялікай культуры. Творыць усё ж такі дух, як гаварыў апостал Павел, а цела - толькі спажывае.

Нацыянальная ідэя з'яўляецца галоўнай кіруючай ідэяй у палітыцы Беларускага Народнага Фронту таму, што яна найбольш поўна выражае самаўсведамленне народу. Яго, так бы мовіць, саборнае «Я» як самастойнай рэальнай агульнасці і як поўнавартаснай часткі агульначалавечай сацыяльнай сістэмы. Яна рэалізуецца праз духоўную культуру і нацыянальную мову як матэрыялізаваную свядомасць, непасрэдна спалучаючыся з матэрыяльнай культурай і той жа эканомікай народа і ператвараючы яго ў рэальны і цэласны сацыяльны арганізм. Больш шырокія ідэі, як, напрыклад, агульначалавечая ідэя гуманізму, Космасу і, нарэшце, сам Госпад Бог выступаюць у ролі своеасаблівых катэгарычных імпэратываў, сярод якіх Бог з'яўляецца найвышэйшым, абсалютным маральным крытэрыем і арыенцірам. Пры гэтым, аднак, усе гэтыя ідэі захоўваюць свой чыста ідэальны характар і рэалізуюцца праз больш вузкую і канкрэтную нацыянальную ідэю. Тэакратыя, напрыклад, яшчэ не ёсць дэмакратыя. Дэмакратыя можа рэалізавацца толькі праз нацыянальную ідэю ў форме суверэннай, незалежнай дзяржавы. Такія ж ідэі, як усяляк раздзіманае сёння «славянскае брацтва», альбо шумны некалі «пралетарскі інтэрнацыяналізм» на сучасным этапе ўвогуле не могуць рэалізавацца: першае з іх мае сёння толькі гістарычнае значэнне, а другі дык і ўвогуле аказаўся амаль што міфам.

Гэтак жа сама не падыходзяць на такую галоўную кіруючую ролю і больш вузкія ідэі, тыпу вядомага ўжо нам марксісцкага класавага ідэала, які, процістаўляючы адну частку соцыума другой, разбурае нацыянальнае адзінства і адыгрывае па сутнасці сваёй, як паказаў марксісцка-ленінскі досвед, падрыўную, дэструктыўную ролю. Такую ж дэструктыўную функцыю выконваюць і яшчэ вузейшыя прафесійныя ідэі, накшталт, некалі моднай і ў нас тэхнакратыі або мілітарысцкай улады ваенных. Тым болей небяспечная для нас шырока распаўсюджаная на Захадзе ідэя правоў чалавека, зразумелая ў нашым мясцовым спецыфічным кантэксце. Калі там яна трымаецца на традыцыях хрысціянскай маралі, то ва ўмовах пакінутага камуністамі нам у спадчыну ваяўнічага бязбожжа і бездухоўнасці гэтая ідэя абавязкова набудзе сэнс крайняга, амаль што ніцшэанскага індывідуалізму і анархіі, што і можна бачыць на прыкладзе той жа Расіі як у эканоміцы, так і ў яе палітычным жыцці. Менавіта таму ў праграме БНФ, дарэчы, і падкрэслена неабходнасць парытэту паміж правамі асобнага чалавека і правамі народа як нацыі. Нацыянальная ідэя займае такім чынам самае цэнтральнае месца на іерархічнай шкале ідэяў ды ідэалаў, пачынаючы ад індывідуальнага чалавека і завяршаючы Госпадам Богам як верхнім лімітным значэннем гэтай шкалы. Яна нібы факусіруе і канкрэтызуе ў сабе магчымасці ўсіх узроўняў азначанай іерархічнай сістэмы духоўных каштоўнасцяў, выступаючы нібыта іх агульным прадстаўніком.

Нацыянальная ідэя на дадзеным этапе гістарычнага развіцця мае прыярытэтнае значэнне нават у параўнанні з самой ідэяй дэмакратыі. Бо перш чым будаваць дэмакратычнае грамадства, трэба мець адпаведныя ўмовы і перш за ўсё свабоду і незалежнасць гэтага грамадства як суверэннай дзяржавы, здольнай самастойна распараджацца сваім уласным станам і ўнутранымі магчымасцямі ў абставінах прынцыпова раўнапраўных і прыязных узаемаадносін з суседнімі суверэннымі дзяржавамі. У нашым выпадку, напрыклад, з Расіяй. Гэта, зрэшты, таксама дэмакратыя, але ўжо ва ўзаемаадносінах не паміж канкрэтнай асобай і дзяржавай, а паміж дадзенай дзяржавай і дзяржавамі агульнага з ёю сацыяльнага асяроддзя. Аднак, у сучасных грамадска-палітычных абставінах, з прычыны свядома здрадніцкай палітыкі беларускіх уладаў на чале з прэзідэнтам А.Лукашэнкам, Рэспубліцы Беларусь пагражае менавіта страта гэтага суверэнітэту і магчымасць быць вернутай назад. У стан каланіяльнай залежнасці ад Расійска-імперскай Федэрацыі з перспектывай поўнай асіміляцыі і знішчэння самога беларускага народа і ягонай культуры. Не кажучы ўжо пра дэмакратызацыю яго жыцця. У такіх умовах маральна-палітычная сіла нацыянальнай ідэі канкрэтызуецца як адзіны і найбольш эфектыўны сродак захавання і далейшага ўмацавання суверэнітэту Беларусі. На гэтай найважнейшай задачы і павінна засяродзіцца і сканцэнтравацца сёння ўся дзейнасць БНФ як на асноўнай сваёй стратэгічнай лініі.

Менавіта пры такой палітычнай стратэгіі БНФ аказваецца ў больш выгадным стане, чым многія іншыя палітычныя арганізацыі на Беларусі, адны з якіх фактычна засяроджваюцца пераважна на праблемах канкрэтнай эканомікі. Другія любымі сродкамі імкнуцца да саюзу з Расіяй але без Лукашэнкі. Трэція - да інтэграцыі з Еўропай без уліку сённяшняй беларускай спецыфікі. А чацвёртым, падобна расіяніну Жырыноўскаму, хочацца ўсяго толькі самім пакіраваць. Такая стратэгія больш выгадная таму, што толькі з захаваннем суверэнітэту і незалежнасці адкрываюцца самыя шырокія магчымасці для далейшага раскрыцця і рэалізацыі багатага зместу паняццяў «нацыянальная ідэя» і «нацыянальны ідэал»,якія заключаюць у сабе і задачы адраджэння духоўнай культуры народа на ўсім яе дыяпазоне, і рашучую рэарганізацыю эканамічнага жыцця як асновы яго матэрыяльнай культуры. І першае месца тут павінен захоўваць менавіта маральна-духоўны фактар як рашаючая ўмова адраджэння беларускага народа і яго культуры ў цэлым. Абмежавацца тут толькі эканамічнай праблематыкай значыць зноў паўтарыць трагічную памылку Расіі.

Стратэгічная лінія, накіраваная пераважна на нацыянальную беларускую ідэю як на агульны кірунак палітычнай і агульнаграмадскай дзейнасці БНФ, у сілу вялікага сэнсавага багацця гэтай ідэі, адкрывае надзвычай шырокія магчымасці і ў чыста тактычным аспекце гэтай дзейнасці. Пры рашэнні канкрэтных палітычных задач (як, напрыклад, чарговыя выбары альбо ацэнка пэўнага канкрэтнага кроку палітычнага апанента і адпаведная рэакцыя на гэты крок) партыі і аб'яднанні без такой агульна-стратэгічнай ідэі, кіруючыся толькі бліжэйшымі мэтамі, рызыкуюць страціць з поля зроку агульную мэту і ўпасці ў папулісцкую павярхоўнасць. Альбо ў зусім ужо нягожы авантурызм, як тое здарылася з нядаўнімі выбарамі новага прэзідэнта. Палітыка БНФ сярод такіх партый і аб'яднанняў, няхай яны мне даруюць, вылучаецца куды большай грунтоўнасцю і прынцыповасцю менавіта дзякуючы такой стратэгічнай лініі, у аснове якой пастаянна ляжыць глыбокі маральны прынцып. Палітычная стратэгія БНФ - гэта заўсёды маральная стратэгія.

Мараль у палітыцы мае прыярытэт і перад законнасцю. Бо закон - гэта толькі знешняя, матэрыялізаваная форма, якая без унутранага духоўна-маральнага зместу сапраўды ператвараецца ў праслаўтае «дышло» з вядомай расейскай прымаўкі. Менавіта мараль уяўляе сабою рэальную змястоўнасць і сэнс любога закону. Амаральны закон - гэта не закон. Менавіта такія «законы» існавалі і ў Гітлера, і ў Савецкай Расіі, пры якіх «законна» дзейнічалі лагеры смерці і архіпелаг ГУЛАГ. Гэткага ж тыпу і законнасць так званай тэрытарыяльнай цэласнасці выразам волі большасці таго або іншага электарата закон таксама не становіцца Расіі, пад якую там не прыдумана яшчэ аніякай ідэі і якая таму цалкам амаральная. Сведчаннем таму можа быць залітая крывёю Чачня. Сябра Ю.Хадыка вельмі небяспечна памыляецца, калі спрабуе апраўдаць, а то і ўвесці ў норму несупадзенне закона з мараллю. І зусім ужо блюзнерства тут ягоная спасылка на Госпада Бога. Нават будучы яшчэ законам у поўным сэнсе гэтага слова. Голас народу - гэта таксама, на жаль, далёка яшчэ не голас Божы. Пра тое сведчыць як досвед Германіі 30-х гадоў, так і наш нядаўні няшчасны беларускі досвед з выбарамі прэзідэнта Лукашэнкі і ягонымі праславутымі рэферэндумамі.

У прыярытэце маральнага выбару якраз і заключаецца палітычная сіла БНФ. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова глянуць на яго гісторыю і параўнаць, напрыклад, хоць бы дзейнасць яго ў ролі славутай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканння, якая адна, кіруючыся менавіта маральнай ідэяй незалежнасці, дамаглася і фармальна-юрыдычнага яе ўвасаблення ў форме вялікай (яна заслугоўвае такой характарыстыкі!) Дэкларацыі аб незалежнасці і суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. Дзякуючы гэтаму хоць на некалькі гадоў, але над Менскім Домам Ураду лунаў у паветры беларускі бел-чырвона-белы штандар ды імчалася ўперад старадаўняя Пагоня, абуджаючы ад векавога сну самасвядомасць беларускага народа. За ўсё гэта імёны сяброў Апазіцыі БНФ на чале з Зянонам Пазьняком будуць несумненна ўпісаны залатымі літарамі ў пакутлівую гісторыю нашага народу. Сказанае становіцца яшчэ больш пераканаўчым, калі ўзгадаць, як паводзілі сябе тады, на жаль, многія з нашых сённяшніх калегаў па апазіцыі (усё гэта мы бачылі па тэлебачанню) і як выглядалі іхнія выступленні ў параўнанні з выступленнямі сябраў Апазіцыі БНФ. Узяць хаця б іх агульныя ацэнкі палітычнай сітуацыі альбо характарыстыкі тагачаснай Расіі. Ці дапамог тады хоць хто-небудзь з іх Апазіцыі БНФ і Зянону Пазьняку ў іх гераічнай барацьбе за незалежнасць і суверэнітэт? Ці пратэставаў хто сур'ёзна і ці кінуўся ім на дапамогу, калі іх збівалі дубінкамі і выціскалі ім вочы азвярэлыя апрычнікі Лукашэнкі?

Праўда заўсёды была на баку БНФ. А праўда ў беларускай мове абазначае не толькі ісціну, а і маральную катэгорыю дабра. Асабліва ж прайграюць у гэтым параўнанні асабістыя «іміджы» паасобных палітыкаў, лінія паводзінаў якіх нават на кароткім адрэзку часам нагадвае не прамую, а складзеную з хвацкіх піруэтаў фантастычную крывую. Як яны грэбавалі некалі беларускай культурай і мовай, як выдыгалі перад расійскімі камуністычнымі «вождями» і мафіёзна-імперскімі алігархамі, як падштурхоўвалі да ўлады сённяшняга нашага гора-прэзідэнта! Гэта не кажучы ўжо пра журналістаў, што абслугоўвалі патрэбы гэтых палітыкаў, выдаючы сябе таксама за, быццам бы, вельмі «крутых» апазіцыянераў. Яны хоць і пакусвалі часам прэзідэнта, але таксама амаль нідзе і ніколі не гаварылі і не пісалі пра беларускі суверэнітэт. Калі статыстычна ўсярэдніць пазіцыі і тых, і другіх, то ў якасці іх «ідэала» на месцы незалежнай Рэспублікі Беларусь цьмяна вымалёўваецца нейкае рускамоўнае і рускадумнае сацыяльнае ўтварэнне абавязкова ў складзе гегеманічнай, як называў яе заснавальнік панславізму Данілеўскі, Расійска-імперскай Федэрацыі. Рыхтык колішні «Северо-Западный край»! У якім жа ясным і светлым німбе прынцыповасці і маральнай чысціні нават пры ўсіх сваіх асабістых недахопах (у каго іх няма) і дапушчаных часам, магчыма, промахах высіцца над ўсімі імі Зянон Пазьняк! Нездарма ж чалавек такога маральнага калібру і па-мастацку праніклівай інтуіцыі, як Васіль Быкаў, пісаў неяк, што Пазьняк нам пасланы Богам. Няхай сабе, можа, гэта і паэтычнае перавелічэнне, але тое, што Пазьняк у сваім маральна-палітычным выбары кіруецца толькі Богам як абсалютным маральна-каштоўнасным арыенцірам - тое святая праўда.

І ў гэтых абставінах балючае расчараванне і горкі подзіў выклікае пазіцыя колішніх сяброў і аднадумцаў Пазьняка, вельмі паважаных некалі людзей, якім была даверана роля яго намеснікаў і якім дагэтуль безаглядна верылі і мы, шэраговыя сябры БНФ. Яны і яму, і нам усім сёння проста здрадзілі, інача не скажаш. Спаслаўшыся ў якасці зачэпкі на прыватны па сутнасці выпадак з адмовай удзельнічаць у безадказнай авантуры па выбарах новага прэзідэнта (арганізатар яе В.Ганчар «как юрист» сам не мог не разумець усёй авантурнасці і бессэнсоўнасці гэтага мерапрыемства), і выкарыстаўшы змушаную адсутнасць Зянона Пазьняка, Ю.Хадыка і І.Вячорка з калегамі распачалі непрыгожую кампанію па замене яго на пасадзе старшыні Беларускага Народнага Фронту. І гэта ў сённяшніх найскладанейшых палітычных абставінах! Ім не падабаецца цвёрдасць і непахіснасць пазьнякоўскай пазіцыі, ім блюзніцца тут нейкі неабальшавізм. А між тым менавіта такая цвёрдасць нам сёння якраз і патрэбная. Гандзісцка-талстоўскім непраціўленнем злу, на якое спасылаюцца часам праціўнікі Пазьняка, Індыя адстаяла сваю незалежнасць дзякуючы толькі таму, што ёй супрацьстаяла цывілізаваная Англія. Расіі, аднак, у гэтым сэнсе ад Англіі вельмі далёка. Варта супаставіць толькі працэс распаду, а, дакладней было б, роспуску Англійскай каланіяльнай імперыі з працэсам распаду імперыі Расійскай. Ужо з самага пачатку гэтага працэсу ў Расіі шчодра ліецца кроў. А што яшчэ мае здарыцца там у будучым, тое цынічна дэманструе нам сёння мілошавічаўская Югаславія, гэтая копія Расіі ў мініяцюры. Варта, дарэчы, нагадаць і вядомую аналогію паміж Косавам і Беларуссю, якую правёў у Расіі небезвядомы Ілюхін і зробленыя ім з гэтай аналогіі высновы. Не хацелася б пра гэта гаварыць, але мець на ўвазе патрэбна і такое. У гэткай сітуацыі выбар паміж незалежнасцю Рэспублікі Беларусь альбо ўключэннем яе ў склад Расійскай Федэрацыі ў якасці правінцыяльнай губерніі можа быць толькі адзін - незалежнасць. Калі Лукашэнка напрамую здае Беларусь Расіі, то Пазьняк бескампрамісна стаіць за яе незалежнасць і суверэнітэт. Трэцяга тут не дадзена, што б там ні казалі некаторыя сённяшнія нашы калегі па апазіцыі (што ўвогуле зусім не азначае, што мы з імі не будзем актыўна супрацоўнічаць у выпадках, калі і яны рэальна выступяць за суверэнітэт). І ў гэтым пытанні ўсе сумленныя людзі, каму па-сапраўднаму дарагая Беларусь, - за Пазьняка.

Крытыкам Зянона Пазьняка вельмі не падабаюцца некаторыя асабістыя яго рысы як чалавека. Ён, зразумела, не анёл, але хто з яго паплечнікаў, уключаючы і саміх крытыкаў, можа зраўняцца з Пазьняком па сваёй папулярнасці? Гэтае прозвішча ведае кожны беларус, як бы ён да яго ні ставіўся. Пазьняк мае вельмі дакладную палітычную інтуіцыю, пра што сведчаць хаця б яго заўсёды спраўджальныя прагнозы. Ён у поўнай меры валодае тым, што сацыёлагі называюць харызмай. І гэта таксама з'яўляецца надзвычай важным фактарам пры цяперашнім стане нашага электарата. Безумоўна ж, заніжаныя рэйтынгі прафесара Манаева, якія той дае Пазьняку і на якіх пачціва абапірае свае высновы Ю.Хадыка, немажліва прымаць усур'ёз, ведаючы грэбліва-зняважлівае стаўленне гэтага чалавека да ўсяго беларускага, адкрыта выяўленае ім нават на старонках «Народнай Волі». Затое прафесар Манаеў не раз і ў многіх газетах ставіў падазрона высокія рэйтынгі Аляксандру Лукашэнку. Няўжо ўсё гэта невядома было Ю.Хадыку, калі ён пісаў свой нядобры артыкул «Абое рабое»?

Пазьняк мае незаплямленае маральнае аблічча. Хто можа кінуць камень у яго з абвінавачаннем у пошуку асабістай выгады, а тым болей нейкага матэрыяльнага інтарэсу? Гэта нават не змог зрабіць найвялікшы майстра падобных справаў Аляксандр Лукашэнка (узгадаем сфабрыкаваную ім гісторыю з кілаграмам цвікоў, быццам бы, скрадзеных С.Шушкевічам). Няшчасная ягоная эміграцыя - рэч, без сумневу, вымушаная. І трагічны лёс кіраўніка ўкраінскага «Руху» В.Чарнавіла тое пераканаўча пацвярджае. Праўда, нехта Астроўскі, быццам бы, збірае ўжо і такі кампрамат на Зянона Пазьняка. Але вельмі знаёмы ўжо гэты почырк. Відавочна расійскага ён паходжання. Там, як вядома, падобнага кшталту кампрамат умеюць збіраць чамаданамі. А чаго варты выраз «група Папкова-Пазьняка»? У гэтым выразе таксама, як тое ні непрыемна канстатаваць, чуецца штосьці знаёмае, асабліва людзям старэйшага веку, якіх палохалі некалі гэтым выразам на допытах ў пэўным нядобрым ведамстве. І якая, нарэшце, іронія: спачатку Папкоў і толькі за ім ужо - Пазьняк!

У найскладанейшых сённяшніх абставінах, калі лёс беларускай незалежнасці, а, значыць, і ўсяго беларускага народа, вісіць на валаску, распачынаць такую сумніўную аперацыю - значыць браць сабе за мэту адкрыты раскол БНФ. Раскол адзінай па сутнасці рэальна існуючай прагрэсіўнай палітычнай арганізацыі на Беларусі. Таксама не новы, хоць і дзейсны дагэтуль спосаб. Так былі загублены, як вядома, Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Партыя і Беларуская Партыя Нацдэмаў. Непрыгожая гісторыя! Усё гэта разам наводзіць на вельмі невясёлыя думкі. Міжвольна прыгадваюцца словы вядомага расейскага палітыка П.Мілюкова, у прыблізна аналагічных абставінах кінутыя ім у твар членам царскай расійскай думы: «что это, господа, глупость или измена?» І што б там на справе ні было, першае або другое, але палітыка тут ужо ніяк не супадае з мараллю.

**М.Крукоўскі,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Святлана Крук: «Цяжка, калі твая краіна - невядомая ў свеце»

**Каралева прыгажосці Беларусі зайшла ў кавярню - і адразу ўсе мужчыны, як па камандзе, павярнулі галовы ў яе бок. Успышка захаплення ў вачах - і зноў усе пацягнуліся да філіжанак кавы, да сваіх субяседнікаў. Але ўвесь час размовы са Святланай Крук я не магла пазбавіцца адчування, што з нас ні на момант не зводзяць вачэй.**

Святлана нядаўна вярнулася з Бейрута, дзе праходзіў конкурс прыгажосці «Міс Еўропа».

- Раскажы, калі ласка, пра еўрапейскі конкурс прыгажосці, як усё было.

- Напачатку я прыляцела ў Вену. Перад ад'ездам з дому мяне запэўнівалі, што ў Вене будуць сустракаць, праводзяць у гатэль -словам, складанасцяў не будзе. Але папярэдзілі - з самалёта выходзіць у стужцы «Міс Беларусь», каб пазналі. Я так і зрабіла -надзела гэтую стужку, выходжу - і нікога няма, ніхто не сустракае! А я мовай нямецкай не валодаю, куды ехаць, што рабіць - не ведаю. На шчасце, у аэрапорце сустрэла Міс Літву і Міс Малдову - утраіх мы знайшлі гатэль і ўсё скончылася добра.

***- Бейрут быў больш гасцінны?***

- У Бейруце нас сустрэлі ветліва і сардэчна. Дзесяць дзён мы адпачывалі - елі, ездзілі на экскурсіі. Растаўсцелі - потым давялося лішняе зганяць на рэпетыцыях. Аднак традыцыйная ежа мне там не спадабалася. Стравы арабскай кухні нязвыклыя, травяністыя нейкія. Смачныя дэсерты, садавіна. Кава горкая, са спецыфічным водарам.

Рэпетыцыі праходзілі ў адным з найвялікшых і шыкоўных будынкаў Лівана - Бейрут-холе. Прыехала 39 удзельніцаў, амаль з усіх краінаў Еўропы. На першай частцы праграмы было тры выхады ўдзельніцаў: першы - у нацыянальным строі з дзяржаўным сцягам, другі - у купальным касцюме, трэці - у вячэрняй сукенцы. Пасля гэтага ў конкурсе засталася дзесятка лепшых.Першыя тры месцы занялі «Міс Расія», «Міс Італія» і «Міс Эстонія».Далей у дзясятку лепшых увайшлі дзяўчаты з Фінляндыі, Чэхіі, Беларусі, Францыі, Арменіі, Ісландыі, Швейцарыі. Гэтыя дзяўчаты выйшлі яшчэ раз у купальніках і сукенках.

***- Ты разлічвала на перамогу, была ўпэўненая ў сабе?***

- Не, я не думала, што атрымаю перамогу. За 50 год існавання конкурса тытул «Міс Еўропа» ні разу не атрымлівалі дзяўчаты з былога СССР і краінаў Усходняй Еўропы. Галоўным чынам шанцавала прадстаўніцам вялікіх краінаў - Францыі, Італіі, Германіі. Чаму так - цяжка сказаць. Я бачыла ўдзельніцаў розных конкурсаў прыгажосці і з упэўненасцю магу сказаць, што славянскія дзяўчаты на самой справе самыя прыгожыя. А чаму не яны на п'едэстале? Можа, з-за палітыкі, а мо - таму што журы складаецца ў асноўным з прадстаўнікоў уплывовых заходніх краінаў. Пасля фіналу мы папрасілі журы паказаць нам лісты з нашымі баламі. Суддзі павінны былі выканаць просьбу, але адмовілі. Так што там усё ахутана таямніцай. Я на сабе адчула, як цяжка, калі твая краіна невядомая ў свеце. На вечарыне ў гонар 50-гадовага юбілею прысутнічалі ўсе канкурсанткі разам з амбасадарамі сваіх краінаў. Усе сядзелі побач з землякамі. А я - паміж былой «Міс Еўропы» і «Міс Сусвет». Высветлілася, што ў Бейруце не аказалася ніякай афіцыйнай асобы з Беларусі.



Святлана - у першай дзесятцы на конкурсе «Міс Еўропы»

***- Бліжні Усход - край неспакойны. Ці сутыкалася ты з нечым нечаканым у арабскай краіне?***

- Так. У Бейруце 16 год ішла вайна. Нават у дзень конкурса Ізраіль бамбіў горад - мы чулі выбухі. Днём у горадзе ўсё выглядае страшна - вокны ўсе без шкла, сцены дзе разбураныя, дзе прастрэленыя. Хоць шмат яшчэ засталося, на што можна паглядзець. Уначы ўсё цудоўным чынам мяняецца - агні, рэкламы. Прыгожа!

Жанчыны там па вуліцах не ходзяць. У кафэ не сядзяць. Калі сустрэнеш дзе - дык у цёмнай вопратцы, твар да вачэй закрыты. Вольнасці накшталт прагульвацца па вуліцы ці вадзіць аўтамабіль дазваляюць сабе толькі прыезджыя жанчыны.

***- Як новае зорнае жыццё змяніла твой звыклы парадак жыцця?***

- Я звычайны чалавек - як усе, хаджу на дыскатэку, езджу на Юбілейнае. Вучуся на IV курсе матэматычнага факультэта універсітэта. Сесіі здаю датэрмінова, бо звычайна конкурсы прыпадаюць акурат на іспыты. На дыеце звычайна не сяджу, толькі перад конкурсам.

***- Але на вуліцах, напэўна, ужо пазнаюць?***

- Даўно! Як іду - усе глядзяць, ведаеце, пальцам паказваюць: «О, Міс Беларусь пайшла!» Нават аўтографы даю - мне гэта цікава. Толькі ў грамадскім транспарце ездзіць цяжка. Народ лічыць, што раз ты -каралева прыгажосці, то цябе на руках насіць, падарункамі закідваць. Пытаюцца - чаму не на «Мэрсе»? У гэтым плане, канешне, жыццё змянілася.

***- Чаго ў адносінах людзей да твайго зорнага статусу больш - добрага ці дрэннага?***

- Пасля перамогаў на конкурсах у мяне не стала сябровак. Паціху перасталі тэлефанаваць, заходзіць. Відаць, зайздрасць. Хлопцы шчыра хваляць. Віншуюць з перамогай, хвалюецца за мяне. Дзяўчаты - ніколі, наадварот, шукаюць ува мне нешта кепскае, маўляў, «ёсць і лепей за цябе». Я не спрачаюся - мо і ёсць. Усе чамусьці думаюць, што вельмі проста быць каралевай прыгажосці - выйдзеш на сцэну, паўсміхаешся, і ўсё. Аднак на самой справе гэта вельмі цяжкая праца. Паспрабуй, выйдзі на сцэну, калі на цябе глядзяць тысячы вачэй, а ты павінна быць на вышыні, трымаць марку. У мяне ўжо з-за гэтых перажыванняў поўная галава сівых валасоў!

Разам з тым, выхад у нацыянальным строі, са сцягам - незабыўны момант. Адчуваеш гонар за тое, што прадстаўляеш цэлую краіну, за тое, што за цябе перажывае цэлая краіна. Напэўна, гэта патрыятызм.

***- Ты маеш мэту ў жыцці, акрамя мадэльнай кар'еры?***

- Я пакуль не ведаю, кім буду працаваць. Пасля заканчэння універсітэта буду мець спецыяльнасць «выкладчык матэматыкі». Але на працу пайду хутчэй за ўсё на якую-небудзь фірму, прапановы ёсць.

Хацелася б сумяшчаць прыемнае з карысным. Удала выйсці замуж гадоў у 24. Каб не з-за тытула, а з каханнем і павагай. Я не вядуся на сотавыя тэлефоны і «круцізну». Мода - гэта для мяне хобі, добрае баўленне часу. Каб потым дзецям фотаздымкі і касеты паказаць.

***- Што плануеш на бліжэйшы час?***

- Увосень будзе чарговы конкурс «Міс Сусвет». У мінулым годзе я не ўзяла ўдзел, таму што не хапіла грошай. Сёлета, маю спадзевы, Міністэрства культуры выдаткуе грошы - і я патраплю на гэты конкурс. Адбудзецца ён на Сейшэльскіх выспах.

**Гутарыла**
**Алена Сіневіч**



**Віцэ-міс конкурса прыгажосці краінаў СНД Святлана Крук пазіруе рэпарцёрам**

# Ці дачакаецца грошай Інстытут біяхіміі

**У сярэдзіне ліпеня супрацоўнікі Інстытута біяхіміі Нацыянальнай акадэміі навук уздыхнулі з палёгкай. А падстава вось якая. На пасяджэнні адной з камісій Парламецкага сходу Саюза Расіі і Беларусі па дакладу гарадзенскага прафесара Л.Няфёдава прынята папярэдняе рашэнне наконт мажлівасці дадатковага фінансавання даследчых працаў Інстытута біяхіміі з саюзнага бюджэту.**

Гэта непасрэдна звязана з будаўніцтвам у г.Скідалі Гарадзенскага завода медычных прэпаратаў. Праз некалькі месяцаў чакаецца пуск першага комплексу першай чаргі завода, які прызначаны для вытворчасці высокаачышчаных амінакіслотаў. Амінакіслоты жыватворна ўплываюць на кожную клетачку арганізму чалавека. Яны стымулююць імунітэт да знешніх фактараў навакольнага асяроддзя, процістаяць анкалагічным захворванням і г.д. Гэта даволі актуальна ў сувязі з фатальнымі наступствамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Заводаў, падобных скідальскаму, СНД не ведае. Гэта выключна навукаёмістая вытворчасць. Свой уклад у тэорыю пытання ўнеслі ўкраінскія і расійскія навукоўцы. І ўсё ж...

- Інстытут фізіка-арганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі распрацаваў высокаэфектыўныя тэхналогіі атрымання амінакіслотаў, - кажа дырэктар Інстытута біяхіміі, доктар медычных навук Леанід Няфёдаў. - Ім падрыхтаваныя лабараторныя і прамысловыя рэгламенты вытворчасці дадзеных злучэнняў. За Інстытутам біяхіміі - стратэгія распрацовак новых лекавых прэпаратаў на аснове амінакіслотаў, даследавання фундаментальных механізмаў дзеяння амінакіслотаў на паменныя працэсы ў арганізме хворага. А клінічныя даследаванні, неабходныя для рэкамендацыі лекаў да іх ужывання - кампетэнцыя гарадзенскага медычнага інстытута. За пяць месяцаў сумеснай працы зарэгістраваныя два прэпараты: радыё- і геапратэктарны прэпарат «таурын» ды імунастымулюючы прэпарат «лейцын». А вось прэпарат «дэглютам» - на стадыі завяршэння даклінічных выпрабаванняў у Інстытуце біяхіміі.

У гэтым Інстытуце даволі шмат іншых ідэяў выкарыстання амінакіслотаў у лекарскай практыцы. І калі працягнецца фінансаванне навуковых тэмаў, то з часам яны матэрыялізуюцца ў канкрэтныя лекавыя прэпараты. Так што чакаемыя два мільёны даляраў - гэта немалыя грошы.

**Вадзім Жураўлёў**

# Дыплом, які можна павесіць на цвік

**Быў час, калі дзяржава гарантавала юнацтву працаўладкаванне па выбранай спецыяльнасці. А цяпер і не кожны дыплом забяспечвае ўладкаванне на працу. Сутыкнуліся з гэтай праблемай і выпускнікі Гарадзенскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума.**

У пачатку 90-х гадоў тут распачалі падрыхтоўку спецыялістаў, здольных вырашаць практычныя пытанні аховы навакольнага асяроддзя, перш за ўсё на прамысловых прадпрыемствах. І нядаўна адбыўся шосты выпуск групы экалагаў з 29 чалавек. Шасцёра з іх атрымалі чырвоныя дыпломы. Гэтая радасць азмрочана тым, што маладыя спецыялісты не запатрабаваны вытворчасцю. Паводле словаў загадчыка тэхналагічнага аддзялення Святланы Рахлей, такая карціна назіраецца не першы год.

Як быць? Старшыня экзаменацыйнай камісіі Леанід Дзесюкевіч параіў выпускнікам працягваць адукацыю ў вышэйшай школе. Але гэты шлях не кожнаму па сілах і кашальку. Экалагаў-мужчын «выратоўваюць» тыя суровыя абставіны, што іх хутка мабілізуюць у войска. Другія займуцца справай не па спецыяльнасці. Хтосьці ад гэтага, магчыма, і выйграе. Толькі наколькі рэзонна дзяржаве траціць грошы на падрыхтоўку спецыялістаў, да дыпломаў якіх абыякавыя вытворцы.

# Пажарнікі без межаў

**У працоўным кабінеце начальніка Гарадзенскга абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях МНС Беларусі Анатоля Гуза можна пабачыць знакі адрознення, рэгаліі замежнай чаканкі. Што б гэта азначала?**

- Наша вобласць мяжуе з Літвой і Польшчай, - гаворыць палкоўнік,-і мы цесна супрацоўнічаем з нашымі замежнымі калегамі. Агонь не ведае межаў. І ёсць дамоўленасці, па якіх суседзі прыходзяць на дапамогу адзін аднаму. І тут дзяржаўная мяжа - не перашкода. Нядаўна, напрыклад, наша падраздзяленне тушыла пажар на літоўскай зямлі. Былі выратаваны машыніст цеплавоза, які ў сваю чаргу, ратаваў пасажыраў. А вось польскія пажарнікі змагаліся з агнём ужо ў памежным раёне Гарадзеншчыны...

Падобныя выпадкі наогул нячастыя. Але калі гаварыць толькі пра ахвяры на гарадзенскіх пажарах, то за шэсць месяцаў гэтага года ў агні згарэлі 37 чалавек, чацвёра з іх - дзеці. І як правіла, з-за бесклапотнасці, неасцярожнага абыходжання з агнём, неадрамантаванай печы, непагашанай цыгарэты і г.д. Толькі за адзін з апошніх тыдняў на Гарадзеншчыне зарэгістраваны 41 пажар. І тады на могілках з'явіліся новыя крыжы.

# Нелегальная друкарня

**У мінулую пятніцу ў аптэцы-музеі адкрылася новая тэматычная экспазіцыя. Пры гэтым першай арганізаванай экскурсіяй стала група польскіх студэнтаў-медыкаў, якія праходзяць вытворчую практыку ў медычных установах Гродна.**

Для грамадзянаў Польшчы, дзе ўшанцоўваюць Юзэфа Пілсудскага, надарылася добрая мажлівасць уваскрасіць у памяці некаторыя эпізоды з польскага рэвалюцыйнага руху напрыканцы XIX стагоддзя. А гарадзенцам гэтая экспазіцыя цікавая тым, што яна расказвае пра дзейнасць падпольнай друкарні ў вёсцы Ліпнішкі сучаснага Ашмянскага раёна.

Пасля вяртання з Сібіры, куды Пілсудскі быў сасланы за дачыненне да замаху на жыццё Аляксандра III, ён распачаў працу па стварэнню газеты «Rabotnik» («Работник»). Яна прызначалася для рабочых мас Польшчы. Дзейсны ўдзел у стварэнні друкарні ў Ліпнішках прымаў медык Казімір Парнеўскі. Тут ён купіў аптэку, дзе ў 1894 годзе тайна ўсталявалі друкарскі станок, прывезены з Лондана. У Ліпнішкі неадночы прыязджаў Пілсудскі, які фактычна з'яўляўся рэдактарам «Работника». У той час ён прытрымліваўся сацыялістычных ідэяў. У мэтах канспірацыі ў першым нумары нелегальнай газеты месцам яе вытворчасці называлася Варшава.

Пра вандроўнае жыццё друкарні, якая ў 1899 годзе апынулася ў Лодзі, пра новы арышт Пілсудскага добра распавядае стваральнік новай экспазіцыі, гісторык медыцыны Фёдар Ігнатовіч, старшы навуковы супрацоўнік аптэкі-музея. У яго планах - выданне брашуры пра аптэкутыпаграфію ў Ліпнішках.

**Вад Айдараў**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Бен-Зін, альбо Злы дух нашай эканомікі

**Тры тыдні таму беларусы асабліва востра адчулі недахоп бензіну. Відаць, падобная практыка будзе існаваць і надалей.**

Дыяменты, золата, нафта, газ і шмат сыравіны, што здабываецца з зямных нетраў, па сённяшні дзень вызначае лёсы многіх краін і нават цывілізацый. Так, прыкладам, энергетычны крызіс на Захадзе ў пачатку 70-х гадоў быў выкліканы тым, што арганізацыя краінаў-экспарцёраў нафты (ОПЕК), на якую прыпадае прыкладна 60 працэнтаў сусветнага экспарту «чорнага золата», здолела ўстанавіць манапольна высокі кошт яго продажу на сусветным рынку. У склад ОПЕК уваходзяць Алжыр, Эквадор, Інданэзія і Габон. Але галоўная роля належыць такім дзяржавам, як Саудаўская Аравія, Кувейт, Ірак, Іран і некаторым іншым. СССР фармальна не ўваходзіў у гэтую створаную ў 1960 годзе арганізацыю, але яго нефармальная роля ў ёй, роўна як і залежнасць ад праводзімай краінамі ОПЕК палітыкі, была значнай. Былы Саюз уваходзіў у першую тройку сусветных экспарцёраў нафты і, зразумела, усякі раз выйграваў ад падвышэння сусветных коштаў на нафту і прадукты нафтаперапрацоўкі і, адпаведна, прайграваў пры іх зніжэнні.

З прычыны адноснай тэхналагічнай адсталасці першай у свеце краіны, дзе перамог сацыялізм, залежнасць ад палітыкі ОПЕК была досыць адчувальнай. Адсталасць не дазваляла СССР зацвердзіць сябе ў якасці экспарцёра машын і абсталявання, навукаёмістай ці сельскагаспадарчай прадукцыі. Як бы тое ні было, але экспарт нафты і газу быў асноўнай крыніцай паступлення валюты ў краіну. Гэта дазваляла ў пэўнай меры кампенсаваць страты ад неэфектыўнай эканомікі і захоўваць адносную сацыяльную стабільнасць у грамадстве. У прыватнасці, закупы на Захадзе харчавання ўдавалася захоўваць нават тады, калі перманенты стан «халоднай вайны» з сусветным імперыялізмам пагражаў разгарэцца да пункту кіпення. З другога боку, валютныя паступленні ад экспарту сыравіны дазвалялі падтрымліваць дэмпінгавыя кошты на нафтапрадукты на ўнутраным рынку, калі гэтае слова прыдатнае для характарыстыкі планавай эканомікі. Апрача таго, дзякуючы выгаднай кан'юнктуры на сусветным рынку, СССР меў магчымасць трымаць у цуглях сваіх сатэлітаў у сацлагеры за кошт пастаўкі «танных» сыравінных рэсурсаў.

Наступствы гэтай палітыкі былі жахлівымі. Уяўная таннасць нафты і нафтапрадуктаў для суб'ектаў гаспадарання прывяла да таго, што ў СССР на выраб адзінкі таго ці іншага віду прадукцыі выдаткоўвалася ў 6-10 разоў болей рэсурсаў, чым на Захадзе. Гэта быў дзіўны час, калі шафёры і трактарысты злівалі ў канавы нявыкарыстаныя для вытворчых патрэбаў бензін і дызпаліва. Навошта? Каб даказаць працоўную руплівасць па іх скарыстанню.

Але кан'юнктура, што зразумела, рэч непастаянная. У прыватнасці, не маючы жадання плаціць даволі вялікія грошы за нафту і тым самым фінансаваць дабрабыт варожых яму рэжымаў, Захад адрэагаваў на сітуацыю досыць адэкватна. Тэхналагічная перавага дазволіла яму рэзка скараціць расходаванне рэсурсаў па захаванню тэмпаў эканамічнага росту (напрыклад, расходаванне бензіну ў Германіі скарацілася абсалютна, пры рэзкім павелічэнні аўтамабільнага парка), што спыніла рост сусветных коштаў на нафту.

Па-другое, краінам ОПЕК, у першую чаргу Саудаўскую Аравію ўдалося пераканаць у неабходнасці палітычнай лаяльнасці ў дачыненні Захаду. І, як вынік, СССР спачатку страціў сваю галоўную валютную крыніцу, пасля чаго зрасходаваў золатавалютныя запасы і, нарэшце вымушаны быў ужыць знешняе запазычанне. Ідэалагічна гэта аформілася ў так званым новым мысленні. Палітычна - у адмове ад прэтэнзіяў на сусветнае лідарства. У жыццёвым сэнсе гаворка ішла пра тое, каб пазбегнцуь сацыяльных хваляванняў з прычыны банальнага фізічнага голаду.

Калі разглядаць сусветную палітыку як шахматную партыю двух супернікаў - Захада і СССР, то ў 80-я гады яна перайшла ў цугцванг. Усякі ход СССР быў змушаным, павялічваў яго залежнасць ад Захада. Але і Захад ішоў на крэдытаванне эканомікі СССР, бо памятаў, што бунт у велізарнай ядзернай дзяржаве можа абумовіць фатальныя наступствы. Гэта драматычны бок справы. Не меў рацыі Маркс, які сцвярджаў, што смеючыся, чалавецтва развітваецца са сваім мінулым. Не абышлося і без гумару. Так, новая Расія як праваспадкаемца СССР, паводле зразумелых прычынаў, страціла мажлівасць падпітваць рэсурсамі Востраў Свабоды (на гэтыя мэты за 20 гадоў пайшло 50 мільярдаў даляраў). Гэта надзвычай разздавала Фідэля, гэтага Леніна Заходняга паўшар'я. Высветлілася таксама, што СССР (Расія), які паўстагоддзя забяспечваў па дэмпінгавых коштах рэсурсамі краіны сацлагеру, апынуўся перад імі ў даўгу, як у шаўку.




Што да адносінаў новых Беларусі і Расіі, дык тут здарыўся сапраўдны фарс. Па-першае, беларускія лідары, якія сфармаваліся ў тыя часы, калі бензін цёк ракою, палічылі, што менавіта Беларусь (у якасці былога зборачнага цэху СССР) мае права на асаблівае да сябе стаўленне. У гэтым сэнсе іх пазіцыя нічым не адрозніваецца ад пазіцыі Ф.Кастра. З другога боку, у адрозненне ад Кубы, Беларусь знаходзіцца ў зоне рэальных расійскіх інтарэсаў, на задавальненне якіх пакуль, так здаецца Крамлю, не хапае рэсурсаў. Адсюль уся гэтая інтэграцыйная гульня паміж Менскам і Масквой, у якой партнёры не заўважаюць, што любы іх ход вядзе да страты якасці гульні.

Карацей кажучы, цугцванг. Таму што на самой справе ўсё кепска. Калі ў сувязі з агульным крызісам у Азіі сусветныя кошты на нафту сталі зніжацца, у Расіі здарыўся знакаміты дэфолт, ад якога захісталася звязаная з расійскім рынкам беларуская эканоміка. Зараз, калі «новыя драконы» пераадолелі крызіс, сусветныя кошты на нафту ізноў папаўзлі ўгору. Таму у Расіі зноўку з'явілася магчымасць гандляваць з Захадам не толькі дзеля самога факту атрымання валюты (літаральна любой цаной), але і з выгадай для сябе. І гэта таксама вельмі дрэнна. Бо ва ўнутранага расійскага спажыўца няма грошай, каб аплочваць нафтапрадукты па сусветных коштах. А нафтаздабытчыкі не маюць мажлівасці адпускаць ім рэсурсы па цэнах ніжэй сусветных. Апроч падаткаў, якімі нафтавая галіна ў асноўным і забяспечвае расійскую казну, валюта ёй патрэбна для таго, каб разлічваюцца па ўласных валютных абавязацельствах. А галоўнае - валюта патрэбная для таго, каб забяспечыць прымальны тэхналагічны ўзровень вытворчасці. Тэхналогіі, зразумела, можна купіць толькі на Захадзе за валюту. Альбо, што адно і тое ж, за нафту.

Магчымасць выгадна павялічыць аб'ём экспарту вядзе да скарачэння прапановы на ўнутраным рынку. У сваю чаргу, скарачэнне прапановы вядзе да росту коштаў для ўласных спажыўцоў. Гэта павялічвае іх вытворчыя выдаткі, абумоўлівае рост цэнаў на ўсе астатнія тавары і паслугі. Для недаразвітай эканомікі ўсё на шкоду, як кажуць, ні даць, ні ўзяць. Растуць цэны на канцылярскія сашчэпкі, паслугі цырульніка, а рэчы канвеернага паходжання прадаюцца па цане антыкварных. Расце кошт на цэглу, хоць гліна, з якой яны лепяцца, была заўсёды. Нават калі не было грошай, ні тым болей, савецкай улады.

Спіс абставінаў, якія прывялі да дэфіцыту нафтапрадуктаў і наступнаму росту цэнаў на іх, можна яшчэ працягваць і працягваць. Але гэта будзе бязглузды «беспредел». Галоўнае, што трэба зразумець: Бен-Зін, як называлі гэты від паліва эскімосы, што ўпершыню рушылі на маржовае паляванне на маторнай лодцы, ёсць прадукт развіцця цывілізацыі, ці (што адно і тое ж) рынкавай эканомікі. І да тых часоў, пакуль тыя, хто намі кіруе, не кінуць «шаманіць», несучы за наш кошт ахвяры Добраму духу, мы будзем мець тое, што маем.

Што маем? Усю «асалоду» рынка пры захаванні пераважнасцяў сацыялізму. Бясплатную медыцыну пры занадта высокіх коштах на лекі. Сацыяльную абарону пры адсутнасці мажлівасці рабіць зберажэнні. Поўную занятасць пры жабрацкім заробку. Нізкія кошты на «сацыяльна значныя» тавары пры іх адсутнасці у продажу...

**Канстанцін Скуратовіч**

# Курсы валют

**На 28 ліпеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 267.000 беларускіх рублёў; еўра — 283.634,10; нямецкая марка — 145.019,80; расійскі рубель — 11.020. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 28 ліпеня даляр куплялі па 440.000—445.000 і прадавалі па 450.000—455.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

***На мінулым тыдні (19—25 ліпеня) курс даляра ЗША да беларускага рубля вырас на большасці сегментаў валютнага рынку краіны. Лідарам росту стала каціроўка даляра да безнаяўнага беларускага рубля на пазабіржавым рынку — 3,2 працэнта (з 460.000—480.000 да 475.000—495.000 рублёў). На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску кошт амерыканскай валюты павялічыўся ў сярэднім на 1,1 працэнта (з 435.000—440.000 да 440.000—445.000 рублёў пры куплі, з 445.000—450.000 да 450.000—455.000 рублёў пры продажы). На Беларускай валютна-фондавай біржы даляр падаражэў на 0,8 працэнта (з 264.000 да 266.000 рублёў), расійскі рубель — на 1,1 працэнта (з 10.860 да 10.980 рублёў), нямецкая марка і еўра — на 3,6 працэнта (адпаведна са 137.800 да 142.750 і з 269.500 да 279.300 рублёў). У абменных пунктах камерцыйных банкаў сітуацыя не змянілася (300.000—310.000 рублёў пры куплі, 310.000 рублёў пры продажы). З пачатку месяца пазабіржавы безнаяўны курс даляра вырыс на 6,6 працэнта, біржавы безнаяўны — на 2,7 працэнта, «чорны» наяўны — на 2,3 працэнта, банкаўскі наяўны — на 1,7 працэнта. Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам РФ, знізіўся за мінулы тыдзень на 0,4 працэнта (з 24,32 да 24,23 рубля), з пачатку месяца — вырас на 0,04 працэнта.***

**Дзмітрый Уласаў**

# Беларускі рубель: ад кепскага - да горшага!

**Аб'яднанне фінансавых сістэмаў Беларусі і Расіі фактычна азначае, што Беларусь становіцца 90-м суб'ектам Расійскай Федэрацыі. Такое меркаванне ў апошнім нумары папулярнага расійскага часопіса «Профиль» выказаў дарадчык старшыні Савета Федэрацыі па эканоміцы Сяргей Сільвестраў.**

Заява Беларусі аб гатоўнасці да ўвядзення адзінай валюты на базе рубля, на ягоны погляд, з'явілася не вынікам дакладных разлікаў, а, хутчэй, дэманстрацыяй палітычнай волі. Акрамя таго, працэс аб'яднання фінансавых сістэмаў патрабуе змянення шэрагу эканамічных рэалій як у Беларусі, так і ў Расіі. Адно з галоўных пытанняў — уніфікацыя працэсу цэнаўтварэння. Як падкрэслівае С.Сільвестраў, тут эканомікі дзвюх краінаў істотна адрозніваюцца. Расійскія цэны фармуюцца пад уплывам сусветных. Базавыя галіны расійскай эканомікі — здабываючая прамысловасць і ПЭК — арыентаваныя на экспарт, і таму ўся эканоміка, так ці інакш, залежыць ад сусветнай кан'юнктуры і сусветных цэнаў. Беларусь аднак ў значна большай ступені робіць стаўку на ўласную вытворчасць, арыентуецца на рынак Расіі ды іншых краінаў СНД.

Яшчэ адзін фактар — розніца ва ўзроўні харчовай залежнасці дзвюх краін. Так, адзначае С.Сільвестраў, калі ў Расіі ад 30 да 50 працэнтаў харчовага асартыменту — імпарт, то Беларусь, дзе асартымент тавараў некалькі бядней, абапіраецца ў асноўным на прадукцыю нацыянальнага агракомплексу. С.Сільвестраў лічыць, што, калі гэтым вытворцам шляхам увядзення рубля навязаць уласныя правілы цэнаўтварэння, то на перыяд адаптацыі гэта можа сур'ёзна замарудзіць тэмпы развіцця беларускай эканомікі.

«Гэта значыць, атрымліваецца, што аб'яднанне грашовых сістэмаў для Беларусі першапачаткова будзе праходзіць больш балюча, чым для расійскага боку», — робіць выснову дарадчык старшыні Савета Федэрацыі па эканоміцы.

**Ягор Звоннікаў**

# Міграцыйныя працэсы захліснулі Беларусь

**Знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, на шляху асноўнай плыні нелегальнай міграцыі афра-азіятаў, Беларусь сутыкаецца апошнім часам з вялікімі цяжкасцямі.**

Паводле словаў старшыні Камітэта па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь Дзмітрыя Марача, за 1997 год памежнікі Беларусі затрымалі 2960 чалавек, у 1998 годзе - 4130 чалавек. А за палову бягучага года - болей за тры тысячы чалавек. Аснову гэтай плыні складаюць жыхары Паўночна-Усходняй Афрыкі, Афганістана, Індыі, Шры-Ланкі, а таксама сябра мытнага саюза з Беларуссю - Таджыкістана.

Менавіта адсутнасць мяжы на ўсходзе Беларусі - галоўная прычына бясконцых бедаў нашых памежнікаў, што служаць на заходніх ускраінах Берасцейшчыны і Гарадзеншчыны. На погляд вядучых палітолагаў Беларусі, наяўнасць добра абсталяванай мяжы з Расійскай Федэрацыяй знізіла б узровень нелегальнай міграцыі як мінімум у дзесяць разоў. Аднак рух лукашэнкаўскага «яднання» наўрад ці будзе садзейнічаць нечаму падобнаму. І адкрытасць Беларусі бліжэйшым часам можа прывесці разам з нелегальнымі мігрантамі вялікую колькасць наркотыкаў, павелічэнне злачыннасці, рознага кшталту невядомыя інфекцыі і гэтак далей. Бо толькі за мінулы год у нелегальных мігрантаў было канфіскавана каля 100 кілаграмаў наркотыкаў. Органы ўнутраных справаў в 1998 годзе прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасці больш як 30 тысяч замежных грамадзянаў - «нелегалаў».

Больш таго. Беларускае заканадаўства і падпісаныя нашым кіраўніцтвам міжнародныя дамовы дазваляюць большасці «нелегалаў» заставацца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У тым ліку шляхам прызнання іх бежанцамі.

Цяпер у Беларусі прызнаныя бежанцамі 214 замежных грамадзянаў, уключаючы непаўналетніх дзяцей. Лідарства ў парадку ўбывання утрымліваюць Афганістан, Эфіопія, Грузія, Таджыкістан. У працэсе разгляду знаходзіцца яшчэ болей за трыста заяваў. Наогул жа з просьбай аб прызнанні бежанцамі ў Рэспубліцы Беларусь звярнулася амаль 2000 чалавек.

Што датычыць міграцыі ў цэлым, то рэспубліка з'яўляецца прымаючай краінай. Міграцыйны прырост толькі за 1996-1998 гады і першае паўгоддзе 1999 года дасягнуў 50 тысяч чалавек. (У большай ступені гэта паўплывала на выніковыя лічбы перапісу-99). Асноўная плынь мігрантаў (у парадку ўбывання) ідзе з Расійскай Федэрацыі, Казахстана, Украіны, Латвіі, Літвы, Грузіі, Арменіі, Эстоніі, Азербайджана. З гэтых дзяржаваў мігранты ў Беларусь складаюць 75,5 працэнта. У той жа час з Беларусі ў гэтыя дзяржавы апошнім часам ад'ехала толькі крыху болей як тысяча нашых грамадзянаў.

Зусім інакшая сітуацыя з так званай працоўнай міграцыяй. Тут лідыруе выезд нашых грамадзянаў за мяжу, у тым ліку і ў Расійскую Федэрацыю. Хаця большасць людзей усё-ткі аддае перавагу краінам Заходняй Еўропы. Але гэта ўжо крыху іншая тэма, і пра яе вы даведаецеся з наступнага нумару ПАГОНІ.

**Сяргей Міронаў**

# За нявыплату штрафа - штраф

**Барацьба з прадпрымальніцтвам працягваецца. Відаць, хутка «жулікаў» не стане на Беларусі наогул, скрозь будуць дзяржаўныя магазіны, дзяржаўныя паслугі і дзяржаўны рэкет.**

З ліпеня у чарговы раз унесены змены і дадаткі ў Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях. У асноўным гэта артыкулы, пад санкцыі якіх можа патрапіць літаральна кожны кіраўнік, прадпрымальнік. У прыватнасці, невыкананне рашэнняў дзяржаўных органаў аб штрафаванні можа быць пакарана, зноў жа штрафам у памеры да 10 мінімальных заробкаў (да 10 мільёнаў рублёў). Пакаранне цяпер чакае і за «непрадастаўленне інфармацыі аб змяненні юрыдычнага адрасу» - да 50 «мінімалак». Уводзіцца таксама адказнасць за парушэнне парадку правядзення экспертызы якасці тавараў (работ, паслуг) і выдачу недакладнай інфармацыі па яе выніках.

Санкцыя да 100 мінімальных заробкаў прадугледжваецца за парушэнне парадку вядзення бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці, знішчэнне дакументаў або іх утойванне. Больш жорсткім стала пакаранне па артыкулах, што датычаць парушэнняў правілаў вывазу чорных і каляровых металаў, у тым ліку адходы лому. Штрафы павялічаны прыблізна ў два з паловай разы.

Нормы артыкула 155 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях прадугледжваюць адказнасць за ўжыванне не па прызначэнню або з парушэннем заканадаўства выдаткаваных дзяржаўных сродкаў і матэрыяльных рэсурсаў. Раней вышэйазначаныя нормы выкарыстоўваліся толькі для юрыдычных асобаў, а цяпер распаўсюджваюцца і на індывідуальных прадпрымальнікаў.

А прадпрымальнікі ў адказ на змены Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях усё жартуюць і жартуюць:

1) усё, што не робіцца - усё да лепшага;

2) як бы цяжка ні было, а ў калгасе за шэсць мільёнаў у месяц нашмат цяжэй працаваць.

**Кацярына Зволін**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Усебеларускі з'езд 1917 года як зачатак станаўлення палітычнай нацыі беларусаў

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 40-42, 44, 46**

15-17 снежня 1917 года Усебеларускі з'езд ушчыльную падышоў да гэтага лёсавызначальнага рашэння. Форум зноў моцна палярызаваўся, разгарэліся выключна вострыя дэбаты паміж «радаўцамі» і «абласнікамі» адносна выбару найбольш аптымальнай формы самавызначэння. У чым жа адрозненні паміж пазіцыямі, занятымі дзвюма часткамі з'езда?

У сваіх пазнейшых публікацыях прадстаўнікі і адной, і другой плыні сцвярджалі, што «радаўцы» ўжо тады выступілі за абвяшчэнне Беларусі цалкам незалежнай рэспублікай, а намаганні «абласнікоў» былі скіраваны на тое, каб не дапусціць яе выхаду са складу федэратыўнай Расіі. Паводле П.Крачэўскага, «на з'ездзе змагаліся дзве процівулежныя групы - масквафільская на чале з членамі петраградскага {Беларускага} абласнога камітэту і самасційна-незалежніцкая»[134]. «Незалежніцкі» кірунак як процівагу «абласнікам», «аўтанамістам» і «асімілятарам» вылучаў на з'ездзе К.Езавітаў[135]. М.Касцевіч пісаў, што адна частка дэлегатаў выказвалася «за як найбольшую самастойнасць Беларусі», а другая ніяк не магла «развітацца са сваім усерасійскім патрыятызмам...»; пры гэтым ён прыгадваў заяву Я.Варонкі на пасяджэнні Гарадзенскага зямляцтва, што той цэлы тыдзень насіў у партфелі праект універсалу аб незалежнасці[136]. Яшчэ адзін удзельнік з'езда сцвярджаў, што правадыры рыхтаваліся на 17 снежня (паводле старога стылю) абвясціць Беларусь незалежным краем»[137].

Падобную карціну неаднаразова маляваў і Я.Канчар, запэўніваючы, быццам сам з'езд ВБР склікала «для ажыццяўлення незалежнай Беларускай рэспублікі», а на яго пасяджэнні 17 снежня з такім патрабаваннем выступілі дэлегаты Т.Грыб і А.Дулін[138].

Гэтая схема перакачавала потым і ў даследаванні навукоўцаў[139].

Вядома, не выключана, што асобныя, найбольш радыкальна настроеныя дэлегаты ўжо тады гатовы былі прагаласаваць за поўную незалежнасць Беларусі. І ўсё ж, думаецца, лідары абодвух крылаў з'езда мінулай датай некалькі перабольшвалі тагачасныя незалежніцкія памкненні: «радаўцы» - для таго, каб аўтарытэтам Усебеларускага з'езда падмацаваць акт абвяшчэння незалежнасці БНР у 1918 годзе, «абласнікі» - каб падкрэсліць нібыта празмерны радыкалізм, уяўную авантурнасць «радаўскай» часткі дэлегатаў і тым самым апраўдаць сваё зацятае змаганне з імі.

Гісторык не мае магчымасці зазірнуць у згаданы вышэй партфель Я.Варонкі з легендарным універсалам. Але вось словы самога Я.Варонкі на пасяджэнні з'езда 15 снежня (у перадачы Я.Ярушэвіча): «Задача з'езда - арганізаваць краёвую ўладу {...}. Павінна быць аб'яўлена Беларуская рэспубліка ў <u>федэрацыі з астатнімі рэспублікамі Расіі»</u> (**падкрэслена мною. - С.Р.**). Больш таго, Я.Варонка быў гатовы ўскласці на Беларусь (так, як гэта рабіла ў той момант Украінская Цэнтральная рада ў дачыненні да Украіны) долю аказнасці за рэфармаванне ўсёй Расіі на федэратыўных асновах: «Беларусь павінна вырашыць лёс Расійскай федэрацыі. (Бурныя апладысменты)»[140].

Названы Я.Канчарам у якасці вяшчальніка беларускай незалежнасці Т.Грыб 17 снежня выступаў на з'ездзе двойчы. Першы раз - ад імя Сацыялістычнага блоку: «Ад гэтага часу Беларусь павінна быць рэспублікай {...}. {Трэба} выбраць зараз жа камісію, каб распрацаваць адозву да ўсяго беларускага народа з абвяшчэннем рэспублікі»[141]. Другі раз Т.Грыб зачытаў рэзалюцыю вайсковай секцыі з'езда. Тэкст рэзалюцыі захаваўся ў архіве. Задачай нумар адзін Усебеларускага з'езда яна вызначала: «Абвясціць Беларускую Дэмакратычную Рэспубліку як складовую частку Федэратыўнай Расійскай Рэспублікі» [142].

Матрос Балтфлота А.Дулін, які пад пяром Канчара выступае яшчэ адным адэптам незалежансці, агучыў на з'ездзе рэзалюцыю Гарадзенскага зямляцтва: «1) неадкладна аб'явіць рэспубліку (бурныя апладысменты), 2) вылучэнне Усебеларускага Савета салдацкіх, сялянскіх і рабочых дэпутатаў...»[143].

Падобныя формулы гучалі і ў выступленнях іншых прадстаўнікоў «радаўскай» часткі з'езда: Я.Сушынскага, Я.Дылы, А.Бурбіса, П.Алексюка, К.Езавітава, М.Касцевіча, Я.Ладнова, Шабана, Дубовіка і г.д.[144] Ні ў аднаго з іх пратакол Я.Ярушэвіча не фіксуе закліку да аддзялення Беларусі ад Расіі ды абвяшчэння поўнай незалежнасці.

Уважлівы аналіз дакументаў паказвае, што ключавым словам, якое ў кульмінацыйны момант форуму стала яблыкам разладу паміж «радаўцамі» і «абласнікамі», было не слова «незалежнасць», а тэрмін «рэспубліка», паняцце «Беларуская рэспубліка». Нават памяркоўная спроба здзейсніць самавызначэнне ў форме рэспублікі як раўнапраўнага суб'екта агульнарасійскай федэрацыі - чым Беларусь да таго часу не з'яўлялася - выклікала ў асяроддзі «абласнікоў» не падробны перапалох і ў чарговы раз паставіла з'езд на мяжу расколу.

Каштоўнае сведчанне наконт гэтага пакінуў А.Цвікевіч, які апынуўся ў эпіцэнтры спрэчак, але сам не прымыкаў ні да аднаго з полюсаў, таму заслугоўвае найбольшанга даверу: «На Усебеларускім з'ездзе думка аб незалежнасці Беларусі не мела поспеху: агульна лунала на ўсіх сходах і камісіях толькі формула «федэратыўнай Расіі», прычым Беларусь мыслілася як яе частка. Прынцып федэрацыі мала каму быў вядомы, але спрачацца з ім значыла наражацца на непрыемнасці. Нязнайства федэратыўнай сістэмы было нагэтулькі вялікае, што прапазіцыя назваць Беларусь рэспублікай, хоць бы і ў складзе Расійскай федэрацыі, выклікала сярод дэпутатаў абурэнне, супярэчкі і варожыя адносіны. Трэба адзначыць, што супраць гэтае прапазіцыі найбольш былі настроеныя прадстаўнікі валасных земстваў, вёскі і наогул сялянскія дэпутаты, палітычна маласвядомыя і тыя, хто знаходзіўся пад уплывам расійскіх с.-эраў»[145].

Насуперак рэчаіснасці, абвяшчэнне рэспублікі ўспрымалася «абласнікамі» ды іх аднадумцамі як раптоўны разрыў з Расіяй, што для Беларусі стала б «страшным бедствам»; як неабходнасць «даць бой нашым гістарычным суседзям», да чаго Беларусь не гатова; як навязванне рэцэпта, вынайдзенага «не жыццёвай гістарычнай мудрасцю, а нававыварат зразуметай кніжнай граматай»; як імкненне тварыць народнае шчасце «без самога народа», жаданне «падпісацца зараз спехам за ўвесь народ» і г.д.

Побач з аргументамі розуму суседнічалі эмацыянальныя перахлёсты, ірацыянальны страх перад неабходнасцю зрабіць крок да самастойнага існавання, узяць на сябе адказнасць за лёс краю. Не апошнюю ролю адыгрывалі прышчэпленая казённым выхаваннем ксенафобія, забабоны антызаходніцтва. «Прабачце мяне, тысячу разоў прабачце, - звяртаўся да апанентаў А.Вазіла, - але ў вашых прамовах я бачу ўхіл на Захад. Гэта - той самы ўхіл, які больш за ўсё палохае мяне»[146].

Позна ўвечары 17 снежня спрэчкі дасягнулі беспрэцэдэнтнай вастрыні. Каб збіць шалёны напал жарсцяў, быў аб'яўлены перапынак, падчас якога Рада з'езда цаною неверагодных высілкаў выпрацавала кампрамісную формулу арганізацыі ўлады (аўтарам выратавальнай формулы крыніцы называюць А.Цвікевіча).

На пачатку 2-й гадзіны ночы на 18 снежня 1917 года ў напружанай цішыні перапоўненай людзьмі ды эмоцыямі залы Дома дваранскага сходу прагучала: «Замацоўваючы свае права на самавызначэнне, абвешчанае Расійскай рэвалюцыяй, і сцвярджаючы дэмакратычны рэспубліканскі лад у межах Беларускай зямлі, для выратавання роднага краю і засцярогі яго ад падзелу і адрыву ад Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, І-ы Усебеларускі з'езд пастанаўляе: неадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіравання краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнай уладай, адказнай перад Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў»[147].

Паводле сведчання Я.Канчара, дэлегаты, асабліва сяляне, пажадалі праслухаць рэзалюцыю тройчы. «У гэты момант з'езд быў аднадушны, як ніколі»[148].

Вынайдзеная формула ўключала матыў Беларускай рэспублікі, але наймення такога не мела, таму яна была прынята ўсімі і пад бурныя авацыі ўхвалена з'ездам[149]. Гэта была яго несумненная перамога - як над уласнымі супярэчнасцямі, так і над раскольніцкай тактыкай заходнефрантавых бальшавікоў, -перамога на карысць агульнанацыянальных інтарэсаў. «Бяссмертны момант у жыцці нацыі», - так успрыняў гэтую падею М.Касцевіч[150]. А.Гарун бачыў яе значэнне ў тым, што «ўсе арыентацыі зліліся ў адной беларускай арыентацыі»[151].

Прапанаваная Усебеларускім з'ездам форма самавызначэння Беларусі і схема канструявання краёвай улады аналізаваліся ў літаратуры[152]. Таму сцісла адзначым толькі некалькі момантаў.

Па-першае, адлюстроўваючы настроі, безумоўна, пераважнай большасці тагачаснага беларускага грамадства, з'езд не дапускаў магчымасці існавання Беларусі па-за рамкамі агульнарасійскай, «постімперскай» геапалітычнай прасторы. Думка аб уваходжанні Беларусі ў міжнародную супольнасць (сусветную, еўрапейскую) без пасярэдніцтва Расіі яшчэ не ўкладвалася ва ўяўленне пераважнай часткі беларускай палітычнай эліты ўзору 1917 года. У гэтым - гістарычная абмежаванасць апошняй. Разам з тым Усебеларускі з'езд зафіксаваў важны зрух у грамадскай свядомасці беларусаў: уласны этнічны абшар ужо станавіўся для іх чымсьці цэласным, акрэсленым у тэрытарыяльным, палітычным і культурным сэнсе. Беларусь хоць і ўяўлялася па-ранейшаму толькі звяном больш шырокага дзяржаўна-палітычнага аб'яднання, але ўжо не як безаблічная, жорстка падпарадкаваная цэнтру правінцыя, а як адносна самастойны, раўнапраўны, з уласнымі інтарэсамі, аўтаномнай сістэмай кіравання суб'ект агульнарасійскага супольніцтва народаў і краёў. Такі статус мог паслужыць стартавай пляцоўкай для будучага руху да поўнага суверэнітэту.

Па-другое, арганізуючы Беларусь у якасці асобнага, непадзельнага дзяржаўна-адміністрацыйнага ўтварэння на чале са сваім органам улады, з'езд імкнуўся ўвасобіць гэты акт у адпаведныя тагачасным умовам савецкія формы - кажучы словамі Ю.Туронка, «стварыць на беларускай зямлі свой, беларускі орган савецкай улады»[153]. Дадзеная акалічнасць давала магчымасць устанаўлення кантакту і дасягнення кампрамісных рашэнняў як з цэнтральнымі савецкімі органамі, так і з мясцовым Аблвыкамзахам і СНК - зразумела, пры наяўнасці і добрай волі з усіх бакоў.

Нарэшце, неабходна падкрэсліць, што Усебеларускі з'езд, насуперак сцвярджэнням савецкай гістарыяграфіі аб нібыта ажыццёўленай ім спробе «ўзурпацыі ўлады», зусім не прэтэндаваў на беспаваротнае замацаванне ўлады за сабой і вылучаным са свайго складу органам. Наадварот, апошні разглядаўся выключна як часовы. Галоўнай яго задачай вызначалася найхутчэйшае скліканне Беларускага Устаноўчага сходу, які і быў заклікавы прыняць канчатковае рашэнне аб самавызначэнні Беларусі ды сфармаваць пастаянныя органы ўлады. Гэта быў дэмакратычны, негвалтоўны, цывілізаваны шлях. Такі шлях, між іншым, даваў немалыя шанцы доступу да краёвай улады і бальшавікам, паколькі яны (як паказалі выбары ва Усерасійскі Устаноўчы сход) карысталіся ў той момант значным рэйтынгам сярод мясцовага насельніцтва. Так што і з гэтага боку адкрывалася магчымасць да кампрамісаў.

Аднак бальшавікі прадэманстравалі поўную няздольнасць да ўзаемапрымальнага кампрамісу. Гэтаму праціўілася сама прырода бальшавізму - касмапалітычнага ў сваёй аснове, угрунтаванага на фетышызацыі класавай барацьбы і сусветнай пралетарскай рэвалюцыі. Да гэтага дадавалася нізкая палітычная культура мясцовых бальшавіцкіх лідараў, што вылучыліся з франтавога асяроддзя - ахвочага да гвалту і прымусу, іх уладны эгаізм. Як адзначае І.М.Ігнацентка, бальшавікі лічылі, што толькі іх думка мела права на жыццё, кампраміс у іх разуменні - гэта ўступка толькі процілеглага боку[154].

Такое маральна-палітычнае крэда і прадвызначыла акцыю, учыненую па загаду СНК Заходняй вобласці і фронту пасля таго, як Усебеларускі з'езд з уздымам ухваліў першы, самы важны пункт праекта выніковай рэзалюцыі. Лінія бальшавікоў на раскол праваліласа, і адсутнасць палітычных аргументаў давялося кампенсаваць аргументам сілы. Позняй ноччу з 17 на 18 снежня 1917 года будынак Дваранскага сходу быў ачэплены коннымі і пешымі войскамі з двума браневікамі, каля выхадаў пастаўлены караўлы. Узброенымі салдатамі на чале з нецвярозым начальнікам Менскага гарнізона М.Крывашэіным і членам СНК Заходняй вобласці і фронту Л.Рэзаускім праца з'езда была гвалтоўна спынена, прэзідыум і некаторые дэлегаты арыштаваны[155]. Несамавітую ролю пры гэтым выканаў адзін з кіраўнікоў Беларускага абласнога камітэта П.Караткевіч, які інфармаваў заходнефрантавых бальшавікоў аб неспрыяльным для іх павароце ў працы з'езда[156].

Супраціўленне, якое аказалі дэлегаты пры разгоне, яшчэ больш узмацніла ў іх пачуццё салідарнасці, успрымалася як сімвалічны акт гуртавання беларусаў у адну сям'ю перад знешняй небяспекай. «Я зразумеў і на свае вочы ўбачыў <u>нараджэнне</u> народа, уваскрэсенне нацыянальнай самасвядомасці, поўнае незвычайнай унутранай прыгажосці і акружанае арэолам пакутніцтва», - пісаў адзін з дэлегатаў[157]. (**Падкрэслена ў арыгінале. - С.Р.**). Такой жа запомнілася драматычная развязка з'езда і генералу К.Аляксееўскаму: «Усе адразу адчулі сябе адзінымі, сапраўднымі сынамі беларускай зямлі, усе сталі блізкімі адзін аднаму як родныя браты, і гэта быў найвышэйшы, найбольш дзівосны момант усяго з'езда. Можа быць, за ўсю доўгую шматвяковую гісторыю беларускага народа не было такога ўсепаяднальнага моманту»[158].

Разгон Усебеларускага з'езда сарваў натуральны, легітымны, найбольш паўнавартасны шлях ператварэння беларусаў з аморфнай этнічнай масы ў сучасную палітычную нацыю. Далей гэтая трансфармацыя пайшла пакручастымі дарогамі, аказалася запаволенай і шмат у чым дэфармаванай. Выпрацаваная з'ездам дэмакратычная альтэрнатыва бальшавіцкай дыктатуры была задушана.

Тым не менш, значэнне з'езда ў гісторыі беларускага народа застаецца велізарным і, магчыма, яшчэ да канца не ацэненым. Стаўшы вяршыняй усяго папярэдняга нацыянальна-вызваленчага беларускага руху, які аб'ядноўваў параўнаўча нешматлікія групы нацыянальна свядомых энтузіястаў, з'езд адначасова выйшаў за гэтыя адносна вузкія рамкі і з'явіўся першым у гісторыі прадстаўнічым форумам усёй беларускай этнасацыяльнай супольнасці. Ён быў свайго кшталту жывой мадэллю гэтай супольнасці - з усімі яе моцнымі і слабымі бакамі. Паводле словаў П.Крачэўскага, на з'ездзе «народ сам як умеў вырашаў сваю будучыню»[159]. З'езд сцвердзіў факт існавання беларускага народа, засведчыў пачатак усведамлення ім сваіх палітычных інтарэсаў. Як вобразна піша С.Шупа, «падчас канвульсіяў Расійскай імперыі беларусы паспелі запісацца ў клуб нацыяў, якія заявілі аб сваім праве на самастойную дзяржаўнасць. Гэтая заяўка, хоць і не заўсёды бралася да разгляду гаспадарамі палітычнай сітуацыі, аднак яна была назаўсёды зарэгістраваная ў канцылярскіх кнігах гісторыі»[160]. Найбольш аўтарытэтна, ад імя ўсяго народа, гэтая заяўка была агучана Усебеларускім з'ездам 1917 года. З'езд запачаткаваў узнікненне ўласна беларускага палітычнага поля, нацыянальнага палітычнага кантэксту. Пасля з'езда ігнараваць беларускае пытанне ўжо стала практычна немагчыма.

**Станіслаў Рудовіч**

---

[134] Крачэўскі П. Беларусь у мінулым і сучасным//Замежная Беларусь. Кн. 1. С. 52.

[135] Езавітаў К. Назв. тв.//Беларуская мінуўшчына. 1993. N1. С. 28.

[136] Краўцоў М. 20 гадоў назад//Спадчына. 1996. N1. С.192.

[137] АВ Усебеларускі кангрэс у Менску...// Запісы. Кн. 3. С. 149.

[138] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. С.50-51; Он же. Предисловие//Вазилло А.Т. Речь, произнесённая на I Всебелорусском съезде. П.Г., 1918. С.5; То же//Гуманітарна-эканамічны веснік. 1996. N2. С. 42-43.

[139] Круталевич В.А. Указ. соч. С. 131-133; Игнатенко И.М. Октябрьская революция и смамоопределение Белоруссии. С. 70-71, 75.

[140] БГЧ. 1993. N4. С. 52; Тое, што пратакол Я.Ярушэвіча дакладна адлюстраваў ход думак Я.Варонкі, пацвярджаюць словы, усласнаручна напісаныя апошнім 5 студзеня 1917 г. - праз паўмесяца пасля разгону Усебеларускага з'езда: «У Мінску мы вядзём барацьбу з бальшавікамі за ўладу {...}. Уся наша ўвага накіравана на стварэнне Федэратыўнай Расіі, у складзе якой будзе знаходзіцца і Беларуская Народная Рэспубліка». (НА РБ, ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 70; аўтограф).

[141] БГЧ. 1993. N4. С.56.

[142] НА РБ, ф. 325, воп. 1, спр. 1, арк. 24.

[143] БГЧ. 1993. N4. С.56.

[144] Там жа. N3. С.62; N4. С.53-56.

[145] Галынец А. {Цвікевіч А.}. Чатыры гады: 1918 - 25.III.1922//Спадчына. 1996. N3. С.140.

[146] БГЧ. 1993. N3. С.67; Вазилло А.Т. Речь: //Гуманітарна-эканамічны веснік. 1996. N2. С.49.

[147] Ф.Турук. Белорусское движение. Прилож. 15. С.105.

[148] Е.С.Канчер. Предисловие // Гуманітарна-эканамічны веснік. 1996. N2. С.44.

[149] БГЧ. 1993. N4. С.58.

[150] М.Краўцоў. Разгон (Успамін) //Спадчына. 1996. N1. С. 185.

[151] Н[авадворск]і А. Беларускі кангрэс // Беларускі шлях. 1918. 23 крас.

[152] Багдановіч А. Г. Праблема нацыянальнай дзяржаўнасці на I Усебеларускім з'ездзе (снежань 1917 года) // Гуманітарна-эканамічны веснік. 1997. N3. С.19-25.

[153] Туронак Ю. Нежаданая рэспубліка //Кантакт. 1989. N2. С. 28-29.

[154] Ігнаценка І. Рэха Кастрычніка //Беларусь. 1997. N11. С.15.

[155] БГЧ. 1993. N4. С.58-60.

[156] На РБ, ф.325, воп.І, спр.6, арк. 24-26; Канчер Е.С. Из истории: //Неман. 1993. N1. С.157.

[157] На РБ, ф.325, воп.І, спр.19, арк. 287.

[158] Алексеевский К. Указ. Соч. //Чырвоны шлях. 1918. N1. С.9-10.

[159] Крачэўскі П. Беларусь у мінулым і сучасным //Замежная Беларусь. Кн.1. С.52.

[160] Шупа С. Прага і беларуская незалежнасць //Наша Ніва. 1998. 13 крас.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

